Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

5—11 верасня 1998 года
№ 62 (142)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 2000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ



### ЗАЎТРА – ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ НАФТАВАЙ І ГАЗАВАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

*У 21-ы раз будзе адзначаць заўтра разам з таварышамі па працы сваё прафесійнае свята старшы інжынер змены Івацэвіцкай газакампрэсарнай станцыі Аляксандр Аляксандравіч Кныш (на здымку). Усё яго жыццё звязана з газавай прамысловасцю. Праца, якая патрабуе дакладнасці, аператыўнасці, зладжанасці і адказнасці, па яго характары, таму старается ён служыць ёй сумленна.*

### Дзе купіць падручнікі?

З такім пытаннем у рэдакцыю "Газеты для вас" звярнуліся каля дзесяці жыхароў Івацэвіцкага раёна. Нашы чытачы спасыліліся на пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 964, якая вызначае парадак аплаты за карыстанне падручнікамі, якія выдаюцца дзецям у школах, а таксама продаж падручнікаў насельніцтву за поўны кошт. Аднак у школах з забеспячэннем падручнікамі ёсць праблемы. Дакладней, іх папросту ўсім школьнікам у поўным аб'ёме не хапае. А ў кнігарнях райцэнтра, Быцені, Целяхан, Косава кнігі ў продажы адсутнічаюць. Як быць? — пыталіся нашы чытачы.

На жаль, нічога суцяшальнага адказаць не можам. Як паведаміла нам намеснік старшыні праўлення райпа В. С. Люсцібер, кнігі на міжраённых базах, а таксама ў г. Брэсце, Баранавічаў адсутнічаюць.

— Калі б яны былі, — сказала намеснік, — мы такую магчымасць гандлю падручнікамі не ўпусцілі.

У РАА нас крыху абнадзеілі. Ёсць пастанова ўрада, значыць, павінны быць у продажы падручнікі. Вось толькі калі — невядома. Ну што ж, пачакаем. Толькі верасень ужо крочыць... Чакаць па сутнасці часу няма.

### Адкуль патроны?

На чыгуначнай станцыі Івацэвічы затрыманы мясцовы вадзіцель, які збіраўся сесці на цягнік. Падчас асабістага дагляду ў яго выяўлены патроны да баявой вінтоўкі. Забароненыя груз канфіскаваны, міліцыя вядзе следства. Магчыма, ад патронаў нітачка прывядзе да арсеналу і яго гаспадара.

### Аўтасэрвісны комплекс

мяркуецца пабудаваць на алімпійскай трасе паблізу пасёлка Сасновы Бор. Івацэвіцкі райвыканкам прыняў рашэнне аб прадастаўленні зямельнага ўчастка плошчай 7,19 гектара таварыству з абмежаванай адказнасцю "Ірсан-2" (г. Мінск). Гэтае рашэнне павінен зацвердзіць аблвыканкам. На будаўніцтва выдзелена 130 мільярдаў рублёў. Ёсць папярэдняя дамоўленасць, што новы аб'ект будзе ўзводзіць ПМК-18 з Івацэвічаў.

Канешне, навіна прыемная аб будаўніцтве аўтасэрвіснага комплексу. Але ж узнікае пытанне, чаму гэты аб'ект будзе размяшчацца амаль на ўсходняй мяжы Івацэвіцкага раёна. Хіба ён толькі для транзітнага транспарту? Відаць, многія аўтамабілісты г. Івацэвічы і раёна хацелі б карыстацца паслугамі названага комплексу, але не заўсёды ёсць сэнс простаму аўтамабілісту гнаць машыну за 25 кіламетраў.

Тыя, хто ўжо даведаўся аб будаўніцтве аўтасэрвіснага комплексу, выказваюць меркаванне, што лепш было б размясціць гэты аб'ект не ў Сасновым Бары, а трохі бліжэй да райцэнтра, напрыклад, паблізу вёскі Чамялы, Тут і развілка дарог, тут і многа населеных пунктаў. Але ж тое, што заўсёды будуюць, як кажуць, для народа, у таго народа ягонай думкі не пытаюць. Так было заўсёды. Так і засталося цяпер.

### Па-ранейшаму мы вымiраем

Наша газета пісала аб тым, што летась у Івацэвіцкім раёне памёрла больш людзей, чым нарадзілася. У прыватнасці, не стала такой вёскі з жыхарамі як Краглевічы ці Грыўда. І гэты працэс змяншэння колькасці насельніцтва працягваецца і сёлета.

Так, за першае паўгоддзе гэтага года нарадзілася 332 дзіцяці, а памёрла 482 чалавекі. Уявіце сабе, што зніклі ў раёне амаль чатыры такія вёскі як Сакоўцы. Страшна? Не, жудасна. Кожны год пусцеюць нашы хаты. Асабліва прыкметна гэта ў вёсцы.

Прычыны? Іх некалькі. Першая і галоўная — матэрыяльнае пагаршэнне жыцця народа, бо для большасці людзей праблема адна — як пракарміць сям'ю, не гаворачы ўжо пра абутак і адзенне. Рэдка хто ў такіх умовах адважыцца мець вялікую сям'ю.

Другой прычынай лічыцца вялікая колькасць разводаў. З 260 шлюбаў, што зарэгістравана ў раёне, амаль палова ўжо скасаваны. Адкуль жа будзе той рост насельніцтва.

Не хочацца думаць аб гэтым, але паступова мы вымiраем. Як будзе заўтра?

### Трапіў маёр у пераплёт

У пошуках паліўнай помпы да КамАЗа маёр беларускай арміі пакінуў родныя Івацэвічы і трапіў у вёску Гарадзец Кобрынскага раёна. Там да яго прычапіліся мясцовы жыхар і яго малады супольнік з Варонежа, які прыехаў у вёску наведаць бабулю. Хлопцы пабілі ваеннага і забралі ў яго 15 мільёнаў беларускіх рублёў і 300 амерыканскіх долараў.

Супрацоўнікі міліцыі, да якіх звярнуўся па дапамогу маёр, аператыўна вылічылі і арыштавалі рабаўнікоў. Супраць іх узбуджана крымінальная справа.

БЯРОЗА

### На радасць дзецям

У мікрараёне Тышкевіча ў Бярозе 1 верасня адчыніліся дзверы новай пачатковай школы. Займаюцца тут больш за 200 вучняў 1—4 класаў. Умовы для вучобы створаны выдатныя — класы светлыя і прасторныя, мэбля і абсталяванне — новыя.

### Ад сцірт саломы нічога не засталося

У калгасах "Боркі" і "Рассвет" адна за другой згарэлі ўначы чатыры сцірты саломы. Лічыць, што гэта нейкая таямнічая сіла пагаспадарыла, няма падстаў. Пажарныя і міліцыя схільныя да больш рэальнай версіі: падпалы наўмысныя. Пошукі зламыснікаў ідуць, але пакуль яны на след падпальшчыкаў не вывелі.

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ЖАННА. По гороскопу — Близнецы. Обожаю мужское внимание к себе. Нравятся эффектные и умные мужчины. Любимый актёр — Том Круз. Любимая группа — "Мумий Тролль". Нравится путешествовать, мечтаю объехать весь земной шар.*

БАРАНОВИЧИ

### "Юность" порадовала

Барановичский народный ансамбль танца "Юность" награжден дипломом на фольклорном фестивале в Турции. Участие в нем принимали 400 танцоров из 10 стран.

Барановичские артисты получили много приглашений на гастроли, в том числе в Грецию, Египет, Македонию.

Вместе с чеченским профессиональным коллективом "Юность" была удостоена чести закрывать фестиваль в присутствии президента Турции.

### "Долгострою" придет конец

В Барановичах двадцать восемь социально значимых объектов "долгостроя". Многие начинали строиться еще в 1989 году. Вопрос о состоянии дел с незавершенным строительством рассматривался на очередном заседании горисполкома. По вопросам долгостроя отчитывались руководители предприятий.

"Нужно стучаться во все двери! — сказал председатель горисполкома. — Если надо, дойти до министра, чтобы, наконец, завершить строительство".

### Сямейная сварка

У Баранавіцкай гарадской бальніцы апынуліся муж і жонка Ф., 1956 і 1958 гадоў нараджэння. Абодва з нажавымі раненнямі.

У ходзе следства высветлілася, што галава сям'і пасля моцнай сваркі з жонкай у гарачцы ўдарыў яе нажом, а потым сябе. Міліцыя канфіскавала нож са слядамі крыві.

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, С. КАЖАДУБ (Івацэвічы), А. ЛАЎРАНЮК (Бяроза—Баранавічы) і фотакарэспандэнт А. ГАНЧУК.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Чэк "Маёмасць" Ізноў "падрос". У цане

***Цяпер яго намінальны кошт раўняецца ўжо 150 тысячам рублёў. А калісьці ж, на заранку чэкавай прыватызацыі, ён каштаваў у 60 разоў танней. Аднак па меры раскручвання інфляцыйнай спіралі павялічваўся ў цане і імянны чэк "Маёмасць".***

Цяперашняе "падрастанне" народнага ваўчэра выклікана тымі ж прычынамі, што і ў мінулыя гады, — пераацэнкай асноўных фондаў. На падставе гэтага Савет Міністраў рэспублікі і ўстанавіў цану аднаго нявыкарыстанага чэка ў памеры 150 тысяч рублёў.

Наўрад ці зменіцца цана на яго на "чорным" рынку — няма попыту. Людзі не скуплёўваюць гэтыя каштоўныя паперы, бо не бачаць прывабных аб'ектаў, куды іх можна было б укласці.

## Прафсаюзы наступаюць

***У верасні ў трох гарадах Беларусі — Гродне, Брэсце і Гомелі — пачнуць працаваць цэнтры Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў.***

Асноўная мэта стварэння гэтых цэнтраў — аказанне бясплатнай юрыдычнай дапамогі не толькі членам дэмакратычных прафсаюзаў, але і іншым жыхарам. На думку кіраўніцтва кангрэса, прафсаюзныя цэнтры дазволяць аказваць рэальную дапамогу працоўным у абароне сваіх правоў, што паслужыць павышэнню аўтарытэта БКДП сярод насельніцтва. У бліжэйшы час Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў плануе адкрыць свае цэнтры і ў іншых найбольш буйных прамысловых гарадах Беларусі.

## Прадстаўнік Сусветнага Банка развітаўся з нашай краінай

***Пастаянны прадстаўнік Сусветнага банка (СБ) у Рэспубліцы Беларусь Дэвід Філіпс правёў прэс-канферэнцыю з нагоды свайго ад'езду ў сувязі з заканчэннем тэрміну знаходжання ў нашай краіне.***

Замены яму не прадбачыцца. Для назірання за сітуацыяй з пастаяннага прадстаўніцтва ў Кіеве і штаб-кватэры СБ перыядычна будуць прыязджаць у Беларусь супрацоўнікі банка.

У распаўсюджаным прэс-рэлізе гаворыцца, што Сусветны банк вымушаны знізіць узровень сваёй прысутнасці ў Беларусі ў сувязі з неажыццяўленнем урадам РБ ніводнай рэформы з моманту падпісання ў 1997 годзе Мемарандуму аб узаемаразуменні. Разам з тым, Сусветны банк акажа Беларусі дапамогу, аднавіўшы крэдытаванне, калі пачнецца правядзенне асноўных эканамічных рэформ.

## У Беларусь вяртаецца прыгоннае права

***М. В. Мясникович рассмотрел вопросы обеспечения колхозов трудовыми ресурсами, при этом было поддержано предложение председателя райисполкома и руководителей хозяйств о принятии исполнительными органами решения о приеме сельских жителей на работу в городах только с согласия местного исполкома.***

*Пресс-служба Президента Республики Беларусь.*

Прэс-служба прэзідэнта паведаміла пра сустрэчу шэфа прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча з кіраўнікамі Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці.

З паведамлення вынікае, што нашыя ўлады плануюць прыняць рашэнне аб "прыёме сельскіх жыхароў на работу ў горад толькі са згоды мясцовага выканкама". Гаворка ідзе пра фактычную забарону на змену прафесіі для сельскіх жыхароў. Такім чынам, да праблемы прапіскі, без якой немагчыма ўладкавацца на дзяржаўнае прадпрыемства ці атрымаць медыцынскае абслугоўванне, дадаецца патрабаванне атрымаць дазвол сельскага выканкама. Гэта значыць, што і на прыватным прадпрыемстве чалавек з сельскай прапіскай працаваць не зможа. Напрыклад, праверыць міліцыянер у прадаўца ў кіёску пашпарт — ану, галубчык, пакажы дазвол выканкама, што цябе ў горад адпусцілі.

Відаць, што ўцёкі моладзі ад галечы і непрабуднага п'янства беларускай вёскі сталі сур'ёзнай праблемай для кіраўніцтва краіны. Але вырашацье будуць, як заўсёды, шляхам усялякіх забаронаў. Да папрокаў у парушэнні правоў чалавека кіраўніцтва Беларусі ўжо прызвычаілася, а арганізаванага пратэсту не будзе хаця б таму, што беларуская апазіцыя — толькі ў гарадах і праблемамі вёскі амаль не цікавіцца. Самае пікантнае ў тым, што менавіта вёска прывяла Лукашэнку да ўлады і менавіта вёска дапамагла яму выйграць усе рэферэндумы.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

# О РОССИИ ДАЛЕКОЙ И БЛИЗКОЙ

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

**В зале ожидания Ивацевичского железнодорожного вокзала на днях довелось наблюдать любопытную картину: пожилая степенная женщина, подойдя к окошку кассы, спросила о том, сколько стоит билет до Москвы. В помещении было тихо, народу — мало; вопрос ее прозвучал довольно отчетливо. То, что ответила ей кассир, расслышать было невозможно, но все заметили, как женщина отдернулась от кассы, словно ужаленная. Призадумавшись, она постояла несколько мгновений и, покачав головой, отправилась обратно восвояси.**

"А в самом деле, — подумалось мне, — сколько сегодня стоит билет от наших Ивацевич до Москвы или Санкт-Петербурга?» Вслед за женщиной я подошел к окошку, задал тот же вопрос. Ответ меня более чем обескуражил. Оказалось, что стоимость купейного билета до Москвы перевалила за миллион. К миллиону подбирается и цена плацкартного билета.

... Помнится во времена Кебича-Шушкевича мы с женой не раз ездили в тот же Петербург на праздники, на юбилеи к родственникам.

Кстати, в те времена никто истошно не вопил, что мы с Россией должны жить дружно, что без России мы пропадем. Это подразумевалось как-то само собой: билеты стоили самую малость и тем «вынуждали» жить с Россией и дружно, и неразделимо. Даже билет взять было трудновато, хоть и вполне возможно, — народ повально возил в обе столицы сыр и колбасу, которые в те времена были вполне доступным товаром.

О времена, о нравы! Теперь, когда с большой, как говорится, помпой на границе России и Беларуси повалили пограничные столбы и шлагбаумы, поснимали таможни (которые даже есть между российскими регионами), поток братних народов друг к другу, казалось бы, должен был бы хлынуть, сметая все и вся на своем пути.

В самом деле, вспомните, с каким умилением мы следили за процедурой по снятию полосатых шлагбаумов и столбов. Это они, проклятые, полосатые, думалось нам, а не тощие наши кошельки мешают нам ездить друг другу в гости. Вот повалили их и дышать стало легче!

Вышло иначе. Зайдите на ивацевичский вокзал в любое время суток. Билет до Москвы, Санкт-Петербурга берут единицы, поезда ходят полупустые. Повалив столбы и таможни, власть между государствами вкопала новый столб. Денежный. Сама же интеграция Беларуси с Россией уже давно превратилась в свалку пустых деклараций, выпитых чарок, двусмысленных речей.

Диво дивное! Во времена Кебича-Шушкевича проездные билеты были доступны, российские деньги ходили в Беларуси (аж до осени 1993 года, пока их не «отсекла» российская, кстати, сторона), а простые белорусы считают вышеупомянутых политиков заклятыми врагами белорусско-российской дружбы.

Теперь вот стоимость билетов взвинтилась до «звезды небесной», российские рубли купить законным путем так же невозможно, как встретить в Ивацевичах инопланетянина, и, знаете, ничего — простые белорусы считают нынешнюю власть наибольшим гарантом их дружбы с россиянами.

Правда, при этом иногда, отдернувшись от кассы и покачав головой, идут, сгорбившись, эти так называемые простые люди подальше от билетных касс, ставших шлагбаумом на пути в российские города и веси...

*А. ГОРБАЧ.*

ДЗЯРЖАВА І МЫ

## Корміць калгасных цялят... педагог



Чалавек паступова прывыкае да працы, якой бы цяжкай яна не была. Не сакрэт, што на фермах цяпер працуе шмат пенсіянераў. Штучна прыдуманая традыцыя сямейных дынастый у жывёлагадоўлі не дала парасткі і не прыжылася. Сюды ў асноўным ідуць людзі таму, што іншай работы і заробку няма.

Мяне напачатку здзівіла, калі на ферме ў якасці даглядчыка цялят сустрэў былога настаўніка Пятра Лукіча Валінскага. Але здзіўленне знікла пасля таго, як пенсіянер павёў гаворку аб жыцці-быцці.

Прафесію настаўніка Пётр Лукіч лічыў сапраўды рамантычнай, і ён яе надта любіў. У далёкім 1966 годзе пасля заканчэння Пінскага педвучылішча прыехаў у Запалянскую васьмігодку, з юнацкім запалам вёў у пачатковых класах урокі працоўнага выхавання і музыкі. З гадамі прыйшоў да думкі, што трэба павышаць кваліфікацыю і паступіў на завочнае аддзяленне Брэсцкага педінстытута.

Семнаццаць гадоў П. Л. Валінскі настаўнічаў за 10 кіламетраў ад свайго дома. Вясной і восенню на веласіпедзе, зімой на лыжах, а то і пешкі спяшаўся ў Запалянскую школу на ўрокі беларускай мовы і літаратуры, і ў працы бачыў нейкі рамантызм. Адчуваў патрэбу аддаць свае здольнасці дзецям і ўнесці ў іх душы любоў да роднага слова, да роднай матчынай песні, бо Пётр Лукіч акрамя ўсяго іншага яшчэ і музыкант, прафесійна валодае баянам. А яшчэ ён сапраўдны лірык, захапляецца паэзіяй.

Не заўважыў педагог, калі падышоў пенсіённы ўзрост. Не хацелася расставацца з роднай Стайкаўскай дзесяцігодкай, дзе працаваў апошнім часам, адчуваў, што мае ўдосталь творчай энергіі і здароўя, каб несці дзецям трывалыя веды. Але, як шчыра прызнаўся ён, нашай цяперашняй школе патрэбны не столькі сапраўдныя педагогі, як настаўнікі, якія ўмеюць служыць. Да такой катэгорыі ён не належыць. З выхадам на пенсію Пятру Лукічу прапанавалі ўсяго некалькі гадзін працы. Не згадзіўся. Ці то з-за крыўды, ці не дазволіў гонар. І не вагаючыся вырашыў пайсці на ферму, каб мець хоць нейкую капейчыну. Як-ніяк у яго сямёра дзяцей. Праўда, усе акрамя самага малодшага, пажаніліся, але ўсё роўна трэба ім хоць нечым дапамагчы.

Добрае слова кажуць пра даглядчыка П. Валінскага спецыялісты калгаса. І прывагі жывёлы ёсць. Але заробак даглядчыка не дацягвае нават да двух мільёнаў. І гэта пры ўмове, што няма, як кажуць, ні выхадных, ні прахадных.

— Затое пры занятку, — кажа Пётр Лукіч. — Не магу сядзець без работы. На ферме нават вершы пішу...

Эх, жыццё, жыццё! Сядзець бы пенсіянеру дома, наталяць сэрца роднымі краявідамі, пісаць вершы, слухаць на іх музыку, якую піша добры сябар Пятра Лукіча Ліанарый Істратаў. Ды ж! Такая ўжо паляшукова душа. Працуе пакуль не ўпадзе, цягне жылы пакуль... Адпачываць так і няма калі.

*Аляксей ГАНЧУК.*

*Фота аўтара.*

*Івацэвіцкі раён.*

# В ЗАЩИТУ ДЕПУТАТОВ

***Президент неправительственной международной организации "Врачи за права человека" Шарль Клемен направил 11 августа президенту Беларуси А. Лукашенко письмо в защиту заключенных депутатов Верховного Совета 13-го созыва Андрея Климова и Владимира Кудинова.***

***"Врачи за права человека" — международная неправительственная организация, созданная работниками сферы здравоохранения для защиты прав человека. Также, будучи одним из организаторов Международного движения за запрет военных мин, является одним из получателей Нобелевской премии мира в 1997 году. Штаб-квартира организации расположена в Бостоне, США.***

***Текст письма приводим полностью.***

**Президенту Александру Лукашенко, Администрации президента Республики Беларусь, ул. К. Маркса, 38, Минск, Беларусь**

Уважаемый г-н Президент!

От имени организации "Врачи за права человека", неправительственной организации, которая объединяет тысячи медиков-профессионалов, признанных ученых и заинтересованных в этих проблемах граждан, я хотел бы выразить крайнюю озабоченность по поводу лишения свободы Андрея Климова и Владимира Кудинова. Андрей Климов, в заключении с февраля 1998 года, и Владимир Кудинов, в заключении с февраля 1997 года, являются депутатами Верховного Совета 13-го созыва.

Известно, что Андрей Климов страдает болями в груди, однако в соответствии с сообщениями надежных источников информации, он не получил никакого соответствующего медицинского ухода. Нас беспокоит возможность ухудшения его здоровья в случае, если белорусское правительство будет продолжать содержать его в заключении. Кроме того, мы обеспокоены тем, что условия заключения могут серьезно повлиять на состояние здоровья этих двух заключенных и в дальнейшем угрожать их жизням.

Мы просим Вас обеспечить получение Андреем Климовым и Владимиром Кудиновым необходимого для них медицинского ухода. Вместе с тем, мы призываем к немедленному и безусловному их освобождению.

Ваше вмешательство в эту гуманитарную проблему будет высочайшим образом оценено и я с нетерпением жду дальнейшего развития событий в деле Кудинова и Климова.

*Шарль КЛЕМЕН.*

● АКТУАЛЬНО

# ДОРОГАМ — БЕЗОПАСНОСТЬ

Обеспечивая закрепленное в Конституции Республики Беларусь право граждан на свободное получение информации и в соответствии с Законом "О милиции" Министерство внутренних дел информирует граждан о значимости безопасности дорожного движения и начале смотра "Дорогам — безопасность, правопорядок и культуру".

Это необходимо не ради удовлетворения ведомственных интересов. Сегодня в тесном взаимодействии с общественностью и при ее содействии органы внутренних дел в целом обеспечивают безопасность участников движения, оказывают им всевозможную практическую, правовую и моральную помощь на объектах движения, а также обслуживают в сфере регистрационно-экзаменационной деятельности.

Вместе с тем, в настоящее время сохраняются негативные тенденции, связанные с правовым нигилизмом водителей и пешеходов, уровнем взаимной культуры. В ряде министерств,ведомств, предприятий, учреждений и организаций предупредительная работа неадекватна складывающейся обстановке с безопасностью дорожного движения.

Безразличие участников дорожного движения к собственной безопасности, сохранности своих транспортных средств, правам других граждан приводит к совершению грубых правонарушений, возникновению конфликтных ситуаций на дорогах с тяжкими последствиями, большому материальному ущербу в целом для государства.

В процессе осуществления надзора за дорожным движением и охраны правопорядка сотрудниками Госавтоинспекции республики в этом году пресечено более двух миллионов нарушений Правил дорожного движения, в том числе свыше 30 тысяч фактов управления транспортными средствами в состоянии опьянения, более 400 тысяч — превышения установленной скорости движения, 328 тысяч — пешеходами.

В этих условиях проводимая органами внутренних дел предупредительно-разъяснительная и профилактическая работа в трудовых коллективах и автохозяйствах нацелена на формирование у граждан чувства ответственности каждого за соблюдение установленных норм и правил поведения в процессе дорожного движения, что в совокупности с другими проводимыми специальными мероприятиями, направленными на укрепление дорожной безопасности и транспортной дисциплины, позволило управлять ситуацией на дорогах под контролем, в частности, снизить количество дорожно-транспортных происшествий, пострадавших в них людей, особенно детей.

Тем не менее, за 7 месяцев т. г. в республике было совершено 4 тыс. ДТП, в результате которых 901 человек погиб, 3490 получили травмы различной степени тяжести, в т. ч. пострадало 458 детей.

Сложность влияния на безопасность дорожного движения крайне неблагоприятно отражается на обстановке с аварийностью в августе текущего года. Только в трех дорожных авариях — 2, 8, 10 числа — в результате столкновений и опрокидываний транспортных средств погибло 18 (!) человек, из которых 8 — дети.

Тревожный общественный резонанс получила трагедия, произошедшая 24 августа на пересечении улиц Сурганова и Я. Колоса в Минске, когда нетрезвый водитель, управляя автомашиной "Жигули", выехал за пределы проезжей части на остановку общественного транспорта. На глазах у многих людей погибли женщина и 4-летний ребенок, еще трое человек получили тяжкие травмы.

**Учитывая напряженность складывающейся ситуации, Министерство внутренних дел в сентябре т. г. организует в республике широкомасштабный смотр "Дорогам — безопасность, правопорядок и культуру". Цель его — обеспечить сохранение жизни и здоровья людей, участвующих в процессе дорожного движения, особенно детей в связи с началом учебного года.**

Данная совместная работа всегда находила поддержку у руководителей всех министерств, ведомств, в трудовых коллективах и у граждан республики.

Осознанное понимание происходящего на дорогах, объединение всех усилий, взаимная культура позволит обеспечить безопасность дорожного движения.

*В. АГОЛЕЦ, министр, начальник милиции Республики Беларусь.*

## СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ



*От всей души поздравляем с 70-летием Надежду Степановну ЛАСЬКОВУ из г. Коссова. Счастья, здоровья тебе на долгие годы! И чтобы еще и правнуки ощутили теплоту твоих рук и доброту души, как ощущаем их мы. Пусть судьба будет благосклонна к тебе.*

*Милая, хорошая, родная,*
*Не грусти сегодня о годах.*
*Ты для нас такая молодая,*
*Даже с серебринкой в волосах.*
*Нам твои морщинки незаметны*
*И для нас тебя красивей нет.*
*Будь же ты красивой и заветной*
*Еще много-много долгих лет.*

*Муж, дочь, зять, внучка, внук и вся твоя семья.*



*Уважаемая Лариса Юльяновна СОБОЛЬ из г. Ивацевичи! Сердечно поздравляем тебя с днем рождения. Желаем здоровья, счастья, удачи, благополучия и оптимизма.*

*Желаем мы тебе всего,*
*чем жизнь богата:*
*В труде успехов, в жизни долгих лет.*
*И пусть совместная работа наша*
*Оставит в твоем сердце добрый след.*
*И чтоб всегда ты улыбалась*
*Улыбкой доброй и простой.*
*И чтоб всегда такой осталась —*
*С открытой, доброю душой.*

*Друзья и коллеги.*



*Жительницу г. п. Телеханы Надежду Степановну ОМЕЛЯЩИК от всей души поздравляю с 70-летним юбилеем. Желаю крепкого здоровья, добра и благополучия.*

*От юбилея в жизни не уйти,*
*Он настигает каждого, как птица.*
*И я желаю в жизни сохранить*
*Тепло души, сердечности частицу.*
*Желаю в доме все иметь,*
*Желаю в жизни все успеть,*
*Здоровье, бодрость сохранить*
*И много-много лет прожить.*

*Иван Афанасьевич ГОРБАЧ (г. Ивацевичи).*

● ГЛАС НАРОДА

# С каким настроением идём в школу?

***Началось! Полуторамиллионная армия мальчишек и девчонок от 6 до 17 лет после 3 месяцев хаотичного, но приятного времяпровождения направилась в страну знаний. Школьный конвеер заработал.***

***С этого года в белорусской школе впервые начнется обучение по 12-летней программе. В этом учебном году вводятся занятия по трех схемах. Для детей 6-летнего возраста в каждой школе организуются подготовительные классы — фактически это первые классы 12-летней школы. Дети-семилетки, которые получили определенные знания в детском саду или дома, пошли сразу в первый класс — на самом деле это уже второй класс 12-летней школы. Уровень знаний таких детей будут определять с помощью специально разработанных тестов. Те семилетки, которые не пройдут тест, пойдут в "обычный" первый класс. Они последними будут учиться в средней школе 11 лет. В следующем году в школу пойдут все дети-шестилетки — они уже будут учиться 12 лет, с которых четыре года в начальной школе. Проучившись обязательные 10 лет, можно будет выбирать: или идти в ПТУ, техникум и т. д., или остаться в школе еще на два года — продолжать учебу в лицейских классах.***

***11000 учеников города Ивацевичи и района направились в школу в этом году. А, кстати, с каким настроением эти очень молодые люди направляются в учебные заведения? Корреспондент "Газеты для вас" А. Горбач и фотокорреспондент А. Ганчук попытались это выяснить на улицах райцентра.***



**Вадим РЫМАЧ** (1 класс). Я и не знаю. В садике вот хорошо. А в школу идти — так немного и страшно. Такие строгие там дяди и тёти. И все такие серьезные и, наверное, злые. Правда, я много уже букв знаю.



**Юля КЛЫПА** (8 класс). С хорошим настроением. Вообще-то надоело болтаться без дела. Только вот боюсь, что учиться так же скоро надоест, но хочется чего-нибудь новенького, а в школе бывает иногда интересно. Надеюсь, что хуже учиться в этом году, чем в прошлом, не буду. И отметки, думаю, будут хорошими.



**Дима ГУЛЫЙ** (3 класс). Ну, что сказать? В школу — не очень хочется. Говорят, что лето было плохое в этом году. А по мне и очень даже веселое. А теперь опять каждый день будет одно и то же — подъем, уроки, тетради...

Лучше была бы учеба 3 месяца, а остальное время — каникулы.



**Светлана**, 13 лет. Мама говорит, что учиться в школе начиная с этого года будет легче, потому что программы изменили. Хотелось бы, чтобы так и было. Взрослые по 8 часов в день работают, а мы, дети, по 10—12: в школе 6 уроков отсидишь, да дома надо заниматься тоже по 4—6 часов. Где справедливость?



**Игорь ТРИФОНОВ** (11 класс). С нормальным настроением. Надо добить это среднее образование и думать, что делать дальше. Хотелось бы, чтобы учителя были немного подипломатичнее, не сразу пугали экзаменами. Мы ведь и сами уже, как говорится, с усами. О предстоящей жизни думаем...

● СЛУЖБА 01

# Самакрутка-забойца

Колькі няшчасцяў прыносяць нам бестурботныя курыльшчыкі! Нараджаецца гэтая абыякавасць часцей за ўсё ад злоўжывання алкаголем. І, як правіла, ланцужок "чарка-сон з цыгарэтай" прыводзіць да сумных вынікаў.

Не падумаў аб гэтым 74-гадовы пенсіянер з вёскі Няхачава Васіль Іосіфавіч Машко, калі апаражніўшы шклянку віна, улёгся на ложку. Перад сном рашыў выпаліць самакрутку. Выпадкова зазірнуўшая да адзінокага старога суседка жахнулася. Гаспадар моцна спаў, а падушка ля яго галавы тлела, напаўняючы пакой смуродам. Разварушыўшы Васіля Іосіфавіча, жанчына разам з ім патушыла агонь.

А раніцай зноў устрывожыў суседзяў дом В. І. Машка: з вокнаў валіў дым. Выклікалі пажарных. Апошнія, прабраўшыся скрозь агонь у хату, знайшлі гаспадара мёртвым. Смерць наступіла ад моцнага атручвання таксічнымі прадуктамі гарэння.

З пачатку года ў раёне гэта ўжо сёмая ахвяра згубнага агню, які ўзнікаў ад маленькай цыгарэты. Мо прыведзеныя факты прымусяць задумацца тых, хто не кінуў звычку курыць у ложку.

*В. МОЛАШ, старшы супрацоўнік ЦНППБ АВПС Івацэвіцкага раёна.*

# ШЛЯХ ДА БОГА

● ИЗ ИСТОРИИ УНИАТСКОЙ ЦЕРКВИ

## Мученический путь развития

***Мы — белорусы. У нас была своя история. К великому сожалению, некоторые ортодоксы марксистско-ленинской философии стараются и ныне ее исказить, о некоторых периодах развития нашего государства сознательно умолчать или же рассказать с позиции холопской любви к русской империи. Как, к примеру, охаяли наш бел-чырвона-белы сцяг и герб "Пагоня".***

***Белые пятна Беларуси. Сколько их? Много, конечно. В том числе и развитие нашей белорусской национальной церкви.***

***Униаты... До недавнего времени слово это было под запретом. Краткий обзор истории развития нашей национальной церкви и предлагаем читателям "Газеты для вас".***

Евангельское понятие Церкви — это понятие о Церкви Единой, Вселенской, Соборной. Действительно, есть один только Бог и одна только вера, так и должна и может быть одна истинная Церковь. **"Да будет едино стадо и един пастырь"**, — это определение Церкви дано самим ее основателем — Иисусом Христом.

Так должно быть. Но как же есть на самом деле? Мы видим, что вместо Церкви Единой существуют многие христианские церкви: католическая, православная, лютеранская, протестантская и т. д. Между ними нет единства, то есть скрытая или явная борьба между собой, заключающаяся в том, что каждая из них истинной считает только себя. Стадо разбрелось и каждая овца сама себе пастырь.

Наш Спаситель дал апостолу Петру высшую власть над Церковью, вручил ему ключи Царствия Небесного, сделал его пастырем Своего стада. Иисус Христос говорит: "Ты, Кифа, наречешься Петром, и на камне сем воздвигну Церковь мою". И еще: "Паси овцы мои". По вознесении Господа апостол Петр является его преемником, всегда выступает как первый из апостолов.

Древняя Церковь Христова всегда признавала апостола Петра главою Церкви. **Это главенство по апостолу Петру перешло на его преемников-епископов Римских**, где Петр утверждал христианство и заложил Церковь, ее престол.

От Римской империи Церковь наследовала деление на Западную (Римскую) и Восточную (Византийскую). Они отличались одна от другой языком, обрядами, национальными традициями. Но они имели одно учение и одного видимого главу епископа Римского.

### Крещение Руси. Церковный раскол

**Русь приняла христианство от Византии: крестилась в 988 г.** Первопросветители славян св. Кирилл и Мефодий обратились за благословением на сей подвиг к Папе Римскому и от него же получили епископское достоинство. Первым провозвестником Евангелия на Руси был апостол Андрей Первозванный. Киевская Русь, приняв крещение от Константинопольской Церкви, по сути дела приняла его от Единой Соборной Церкви.

Позже Константинопольский патриарх с целью добиться независимости от Рима нарушил Церковное единство. Русская церковь определенное время стояла за Единство.

**Церковный раскол произошел в 1054 г.** На Западе христианство ширилось и набирало силу. На Востоке же Церковь оказалась порабощенной светскими властями. Религиозная жизнь пришла в упадок.

**Разделение Церкви было выгодно местным князьям. Усиливая свою власть над церковью, они усиливали свою власть и над народом. Так Восточная церковь, выйдя из-под духовной опеки римских владык, попала в прямую зависимость от владык светских.**

### Первые попытки Церковного Единства

**Епископат Русской церкви прилагает усилие к Единству Церкви.** Вызревает мысль соединить воедино Церкви Католическую и Православную. Уния не была случайным явлением. Она была обусловлена исторической жизнью Русской Православной Церкви в Великом Княжестве Литовском.

В 1438 г. Константинопольский патриарх попросил Римского Папу о созыве Собора. Собор завершился в 1439 г. во Флоренции принятием следующего постановления: **"Решено, что св. Апостольский Престол, Папа Римский имеет начальство над всем миром, и что Римский Папа является наследником св. Петра князя апостолов, и главой всей Церкви..."** Этот декрет был подписан представителями всех Восточных церквей, в том числе и **Главою Русской церкви Митрополитом Исидором.** Права католического духовенства были уравнены с правами православного.

Киев принял эту весть с великой радостью. Литовское правительство признало Флорентийскую Унию. Однако в Москве великий князь Василий II Темный объявляет Флорентийский Собор и принятую на нем Церковную Унию преступлением, а самого Исидора заточает в монастырь. Так волей одного светского князя перечеркивается на Руси воля Святой Церкви.

Московским князьям было выгодно искоренить Унию в западных областях. Прилагаются усилия, чтобы оторвать Киевскую митрополию от Церковного Единства. За московские деньги Константинопольский патриарх ставит в Киев митрополитов — сторонников Москвы. Деньги начинают приобретать все большее значение в жизни Русской Церкви: церковные должности продаются и покупаются. Часто епископами становятся совершенно светские люди.

*По материалам печати подготовила Н. ЧИКИТА.*

**(Продолжение следует).**



### ПРАВОСЛАВНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

**СЕНТЯБРЬ**

**11** — Усекновение главы Иоанна Предтечи;
**12** — Перенесение мощей св. благоверного вел. кн. Александра Невского;
**14** — Начало индикта — Церковное новолетие;
**18** — Св. пророка Захарии и св. прав. Елизаветы;
**20** — Св. Иоанна, архиеп. Новгородского;
**21** — Рождество Пресвятой Богородицы;
**27** — Воздвижение Честнаго и Животворящего Креста Господня.

### Паездка ў Полацк

Чацвёра вернікаў Івацэвіцкай грэка-каталіцкай царквы пабывалі ў Полацку, наведалі Спаса-Ефрасіньеўскі сабор, уніяцкую святыню — Сафійскі сабор.

Вернікі жылі ў манастыры, прысутнічалі на богаслужэннях у храмах.

*Л. САШЫН.*

### СТАРЫ ХРАМ

Стары храм, хто яго
будаваў?!
Людзі свята верылі Богу,
але чыйсьці страшэнны
аскал
зруйнаваў, пасяліўшы
ў сэрцах злобу.
Але не, не справіць баль
сатана на касцях
памёрлых.
З небыцця, з руін паўстаў
Стары храм, адчыніў
вароты.
Узняліся ў блакітную высь
на вежах касцёльных
крыжы.
За сябе, за другіх
памаліся,
вольным стане дыханне
душы.
Лепей стане дыхаць
вакол,
калі хтось дарогу
знайшоў.
Не зрабіўшыся ахвярай
злога,
храм душы адчыніў
дзеля Бога!
Як нам жыць, што казаць,
што рабіць?
Нас так доўга вучылі
"яднацца",
не з'ядналіся,
а разыйшліся
па кватэрах адзінага
брацтва.
Мы павінны прайсці
праз усё,
не зваліцца
і не зламацца.
Каб было
не сорамна нам,
Чалавецтва, брацтвам
звацца!
Узняліся ў блакітную высь
на вежах касцёльных
крыжы.
За сябе, за другіх
памаліся,
вольным стане дыханне
душы.
Лепей стане дыхаць
вакол,
калі хтось дарогу
знайшоў.
Не зрабіўшыся ахвярай
злога,
храм душы адчыніў
дзеля Бога!

*Яўген САВЕЛЬЕЎ.*

● ДЗІЦЯЧАЕ ПЫТАННЕ

## ТАТА, А ДЗЕ ЖЫВЕ БОГ?

***Паола Вагнэр жыве ў Мюнхене, працуе журналістам і настаўнікам рэлігіі. Жанаты, мае дваіх дзетак. Гэты дзіцячы твор напісаны ім для бацькоў, аднак мы спадзяемся, што многія дзеці з задавальненнем прачытаюць раздзелы з ягонай кнігі і самі.***

### 1. ТАТА, ЦІ БАЧЫЎ ТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ АНЁЛА?



Так, вядома, я бачыў, Аленка. Ты яго бачыла таксама. Як гэта? Ну дык паслухай. Як ты бачыла на абразах, у большасці анёлы з крыламі. Людзі іх малявалі так, каб паказаць, што анёлы адрозніваюцца ад нас, што яны нябесныя, духоўныя істоты, якія жывуць з Госпадам Богам, каб людзям у патрэбе дапамагаць. У цэрквах ты можаш убачыць скульптуры і абразы вялікіх анёлаў з агромністымі крыламі, а таксама вельмі маленькіх анёлаў, якія, як дзеткі, гуляюцца паміж аблокаў. Гэта ўсё таму, што анёлы розныя і, хутчэй за ўсё, іншыя, чым людзі іх сабе ўяўляюць.

У Біблії часта гаворыцца пра анёлаў. Пры тым большасць з іх не мае крылаў, але затое ўсе яны маюць адну вельмі важную асаблівасць: з'яўляюцца Божымі пасланцамі ды выконваюць заданне самога Бога.

Пра некаторых з тых Божых пасланцоў ты сама ведаеш. Я ўжо табе аднойчы распавядаў, як цар Ірад выслаў сваіх жаўнераў забіць маленькага Ісуса. І вось, калі святы Язэп, заручнік Дзевы Марыі, спаў, наведаў яго ў сне анёл і сказаў, каб Язэп разам з Дзіцяткам і Багародзіцай уцякалі да Егіпту. Язэп так і зрабіў, і тым маленькага Ісуса ўратаваў.

Пасля смерці Госпада нашага Ісуса Хрыста прыйшлі жанчыны да труны, аднак Ісуса там не знайшлі. І з гэтае прычыны былі вельмі засмучаныя. Але ж сядзеў там анёл, які сказаў ім, што Ісус зусім не мёртвы, што Ён уваскрос і жыве.

Такім чынам, сапраўдныя анёлы — гэта пасланцы з добрымі навінамі. А ведаеш, калі нехта засмучаны, можаш для яго і ты быць анёлам. Можаш яго суцешыць. А такіх "анёлаў" ты, напэўна, і сама ведаеш, таксама, як і я.

### 2. ТАТА, А ЦІ БОГ ЧАРАЎНІК?

Паслухай, калі мы кажам пра Бога, не можам гаварыць пра чараўніцтва.



Бог стварыў цэлы свет, зоркі, неба, зямлю, мора і ўсё, што жыве. Але не стварыў так, што ўзяў і выдумаў новую жывёлу ці расліну ды ўсадзіў у свет. Свет з Божае волі паступова развіваецца. Бог уклаў у прыроду свае законы і паводле іх свет існуе. Калі ты адпусціш яблык, ён падае заўсёды ўніз, на зямлю. Так ужо ёсць, так вызначыў Бог. Аднак Ён сам мае ўладу над тымі законамі і можа зрабіць так, каб адбылося нешта, што гэтым законам не адпавядае. Мы называем гэта цудам. Пра Божыя цуды мы можам прачытаць у Біблії.

Госпад наш Ісус Хрыстос учыніў шмат цудаў. Вядома, ты чула, як Ён перамяніў ваду ў віно, як аздараўляў хворых, сляпым вяртаў зрок, глухім — слых, а таксама вярнуў жыццё Лазару, які ўжо чатыры дні быў у магіле. Усё гэта Ісус Хрыстос рабіў не так, як якінебудзь чараўнік, які хоча паказаць сваю моц і праславіцца. Ён хацеў, каб людзі пазналі ў ім сапраўднага Сына Божага, які прыйшоў, каб прынесці ім збаўленне ад грахоў, каб прапанаваць ім сяброўства з Богам.

Божую любоў да людзей Ісус Хрыстос таксама паказваў сваім прыязным стаўленнем да іх, Сваёй службай ім, Сваёй ахвярнасцю. Таго самага чакае Бог і ад нас з табою. Бог і нас пасылае, каб мы сваімі паводзінамі паказвалі, што мы Ягоныя дзеці. Ён пасылае нас, каб мы сцёрлі слёзы таму, хто засмучаны, далі хлеба таму, хто галодны, наведалі таго, хто самотны.

І ведаеш што? Тое, што мы можам быць пасрэднікамі Божай любові, — гэта таксама цуд.



●ПРАЗ ЦЕРНІ — У РЫНАК

# Запрашае кафэ "Варэнічнае"...

— Аб нашым кафэ ведаюць не толькі ў Івацэвічах. Калі камандзіровачныя з розных куткоў вобласці прыязджаюць у наш горад, то, завітаўшы да нас, заўсёды напомняць нам, што ім параілі звярнуцца сюды тыя, хто ўжо нас наведваў. Ці можам мы пасля гэтага расчараваць свайго наведвальніка, — так кажа Ніна Макар, буфетчыца кафэ "Варэнічнае", што на вуліцы Заслонава.

Гэтыя словы — цудоўная ілюстрацыя таго, як ідуць справы ў гэтай установе. Сапраўды, апошні неспакойны час ніяк не адбіўся на працы кафэ: тут заўсёды шматлюдна, праца кіпіць, а прыгатаваныя абеды апетытныя, смачныя.

Самі ж супрацоўнікі кафэ сваю папулярнасць тлумачаць добрым сплавам вопыту і смачнай кухні, цудоўным інтэр'ерам ды добрай славай пра "Варэнічнае".



— Дзякуючы хутка і прафесіянальна праведзенаму рамонту, кантроль над якім узяла дырэктар РГП Т. А. Казлова, наша кафэ стала яшчэ больш прывабным для наведвальнікаў, — кажа повар-брыгадзір Г. Ф. Русак.

— Мы заўсёды прыязна ставімся да наведвальнікаў, і яны, бывае, не супраць пасядзець, пабавіць у нас гадзіну-другую.

Каб не быць галаслоўным, прывяду некаторыя лічбы, якія больш, чым красамоўна, сведчаць пра тое, што дзяўчаты свой, так бы мовіць, хлеб адпрацоўваюць належным чынам. План на чэрвень у 100 мільёнаў рублёў кафэ выканала на 112,3% (выручана 112,3 млн. рублёў).

Ліпеньскі план (135 млн. рублёў) выкананы на 111,7% (выручана 150,8 мільёна рублёў). Кухня ж кафэ "Варэнічнае" выканала план за чэрвень і ліпень на 139,7 і 126,9% адпаведна.

Апошнім часам на кухню прыйшло шмат моладзі, але дзякуючы таму, што на пасту застаюцца такія вопытныя работніцы як Т. Р. Белая і Г. Ф. Русак, можна не сумнявацца: традыцыі кафэ "Варэнічнае", добрая слава аб установе захаваюцца. Кафэ ўпэўнена адчувае сябе ва ўмовах пераходу да рыначных адносін. Сакрэт поспеху калектыву старадаўні — яны людзей кормяць смачна!

*А. ГОРБАЧ.*





***НА ЗДЫМКАХ: (злева направа) повар-брыгадзір Ганна Русак, буфетчыца Ніна Макар, повар Таццяна Белая, повар Таццяна Пашкоўская і кухонная работніца Наталля Ланец; агульны выгляд кафэ; у абедзенный зале.***

*Фота А. ГАНЧУКА.*

●КОНКУРС "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"

## Эпіцэнтр пакуты

Верай, мовай, радзімай
доўгі час гандлявалі,
прадавалі сумленне
за прывід каўбасы;
І атрутныя росы
божай карай упалі
на азёры і рэкі,
на палі і лясы.
Колькі іх развялося,
святататцаў, манкуртаў,
разумовых, духоўных,
пачуццёвых калек!..
Край палескі абраў Бог
эпіцэнтрам пакуты, —
не змяшчаўся ўжо
узровень
грэшных спраў
на шкале.

## На сенажаці

Лёг на мулкае ложа пракоса,
ад сляпня адмахнуўся нагой.
Добра тут, дзе буслы і бярозы
на ахове спакою майго.
Адпачну і, раскінуўшы рукі,
патушу ва ўсім целе пажар.
Аднастайныя рэзкія рухі
прытамілі мяне не на жарт.
Звон у скронях працягла-высокі,
пот казыча паверхню павек.
Кашаніна на сонейку сохне,
абсыхае і сам чалавек.
Адпачыўшы, калі пастарацца,
дакашу да прырэчных кустоў.
Тут узнімецца помнікам працы
варты гонару велічны стог!



## Хутаранка

За чыстым полем, за цёмным лесам,
за невысокаю гарой,
На хутарочку жыве Алеся
з катом, сабакам і казой.
Жанчына дровы ў радзюжцы носіць,
траву на сена сярпочкам жне.
Ляснік тамтэйшы ёй хлеб прывозіць —
Хоць раз на тыдні, а зазірне.
Слупоў і дроту пашкадавалі —
ёй электрычнасць не правялі.
Б'е ў вокны пушча зялёнай хваляй,
звілі ў застрэшку гняздо чмялі.
Хацелі ў горад забраць Алесю.
Яна сказала рашуча: "Не!
Не пражыву я трох дзён без лесу,
і адчапіцеся ад мяне".

*Іван ЛАГВІНОВІЧ.*

*г. Баранавічы.*

●ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Сяброўкі

Усяго іх было шэсць. Маршрутны аўтобус, які павінен быў іх развезці па бліжэйшых вёсках, ужо стаяў, адчыніўшы дзверы, і яны, знаёмыя, узрушаныя сустрэчай, сваімі пявучымі галасамі віталі адна другую.

— Анюта! І ты прыязджала сёння? Дачку адведвала?

— Галя, калі мы ўжо з табою вып'ем чарку, паспяваем?

— Нюра! Да дачкі трэба было? О, у цябе ўжо ўнук!

— А ты, Маня, можа мне пазычыш дражджэй?

— Жэнечка, мусіць, ты выпісалася з бальніцы?

— А ты, Ніна, усё мучаешся з нагамі? Бедненькая!

З нахабным выразам твару, нарэшце, прыйшоў вадзіцель. Азірнуўшы сваім сакаліным позіркам жанчын, ён штосьці скрозь гэты гвалт хацеў спытаць, але грымаса лянівага раўнадушша прабегла па яго твары, і ён, махнуўшы рукою і пералічыўшы жанчын пальцам, усеўся, перакладаючы папкі на панелі. Нарэшце, зашыпелі зачыняючыся дзверы, аўтобус сутаргавата турзануўся і паплыў уперад. Але жанчыны не звярталі ні на што аніякай увагі, сваім радасным шчэбетам напаўняючы паўпусты аўтобус. Гаварылі, канешне, аб прыемным, аб мінулым, штосьці раілі адна другой, давалі парады, выказвалі спачуванні. А час пагаварыць у іх быў: з дзесятак хвілін аўтобус быў вымушаны прастаяць перад пераездам. Калі ж пад'язджалі да першай вёскі, што амаль мяжуе з райцэнтрам, устала Анюта, якой ужо трэба было выходзіць.

— Ты ўжо выходзіш, Анютачка? Калі ж ужо сустрэнемся, пасядзім добра, пагаворым, паспяваем, сяброўка?

— Якое там спяванне, бабы! У мяне ж па бацьку толькі паўгода. Некалі будзе час.

Анюта выйшла. Жанчын засталося пяць. Некалькі імгненняў у аўтобусе стаяла цішыня. Пасля Ніна, мажнага целаскладу жанчына, суровым басам спытала пра выйшаўшую:

— Жыве яна са сваім?

— Ой, дзе там жыве, — адказала Жэня, невялічкая хударлявая жанчына, акінуўшая ўсіх лісліваі усмешкай. Яна нібы чакала гэтага пытання. – Ён жа кабель добры, але і яна круцелька яшчэ тая. Казалі, да яе Мішка зноў падходжваў, пакуль муж сядзеў у псіхушцы. Для чаго ж яна мужыка пасадзіла? Каб хвастом круціць!

— А паслухаеш – добра баіць, — заключыла Ніна басам.

— Ой, хто яе слухае, Ніна? — прагаварыла Маня, лепш усіх апранутая і нават з пафарбаванымі вуснамі жанчына. – Гэту бабу слухаць – сябе не паважаць. Яна табе гаворыць зараз адно, а выйдзе – і кажа зусім іншае...

Усе жанчыны заківалі галовамі. «Я яе ведаю» або «Хто яе не ведае», — гучала з іх вуснаў.

Тым часам, сама Ніна з цяжарам устала і падышла да дзвярэй.

— І ты ўжо, Ніна? Ты больш адпачывай, сяброўка, давай адпачыць сваім нагам, калі пачалі ўжо пухнуць, — зычна загаманілі жанчыны.

— Няма, бабы, здароўя, няма. Яшчэ як сяджу дома – то нічога. А як у горад з'езджу, то потым тыдзень не магу да сябе прыйсці. Ногі баляць, не даюць спакою.

Ніна выйшла. У аўтобусе засталося чатыры жанчыны. Яны крыху памаўчалі.

— На пенсіі яна ўжо? — спытала Нюра, хударлявая, з трохі пасінелым носам жанчына, маючы на ўвазе, зразумела, выйшаўшую Ніну.

— На якой пенсіі? Калі яна, гэта абібочына, што рабіла? — з абурэннем прагаварыла Жэня. – О, гэтак прахварэюць усё жыццё, а ты рабі за іх. Буракоў ёй ніхто ніколі і не даваў. Яна хворая, а пражыве яшчэ больш, чым тая здаровая...

— Казалі людзі, — пявучым голасам прадоўжыла Галя, — што гэткая яна абібочына і скупердзяй, што божа барані. Зяць, кажуць, прарабіў на яе цэлае лета, пасля плюнуў, паехаў і не варочаецца.

Жанчыны бурна загаманілі, і зноў больш частымі былі выразы накшталт «Хто яе не ведае» або «Я яе ведаю...»

Тым часам ужо Нюра падышла да дзвярэй. Жанчыны ажывіліся.

— Як твая печань, Нюрачка? Кажуць, што ты ездзіла ў Брэст правярацца. Неяк ты, сяброўка, схуднела, паблажэла.

— Няма, бабы, аніякага здароўя. Вось была ў сына братавага кума на вяселлі, то нават і не паспявала, бо і на песні не цягне з гэтым здароўем.

Выйшла Нюра. Жанчын засталося трое. Яны крыху памаўчалі.

— Не паспявала, — перадражніла Жэня выйшаўшую. — Каб не напілася, нібы свіння, то магла б і паспяваць. Нос вунь ужо сіні ад гарэлкі.

— Усяму сялу завінавацілa грошы, — падхапіла Маня. — Такі лгун, што крый Божа. Напазычае, прап'е, а пасля сядзіць бы сыч. Казалі, што каб выстраіць ад яе хаты ўсіх людзей, каму яна завінавацілa, то чарга, мабыць, была б да сельсавета. Я яе ведаю...

— А злодзей які! — заківала галавой Галя. – Кажуць, што яна паздымала з платоў усе слоікі ў сяле. Што пакінеш у двары – пішы прапала. Хто яе не ведае?

Вось і Жэня падышла да дзвярэй.

— Жэнечка, твой жа брат жыве непадалёку ад мяне. Чаго не заходзіш, сяброўка? Не пераламілася, калі няма здароўя, — загаманілі жанчыны.

— Няма часу, бабы. Гаспадарка вялікая, мужык п'е непрабудна, хто за мяне будзе ўсё рабіць?

Жэня выйшла. Жанчын засталося двое. Маня не стрымалася:

— Гаспадарка ў яе вялікая, — злосна перадражніла яна. — Якая там гаспадарка ў гэтага хлуса. Трымае адно цялё, бы ката. Адно ведае хлусіць і хваліцца, ды бегаць па сяле. Я яе ведаю.

— А саму ад гарэлкі не адцягнеш, — згадзілася Галя. – Кажуць, што на хрэсьбінах так напілася, што валачылі, бы тую прастытутку. Хто яе не ведае. А ўсё валіць на мужыка. Ён жа, бывае, і вып'е, але не гэтак, бы гэтая прайдзісветка...

Хутка ўстала і Маня, падышла да дзвярэй.

— Манечка, ты не абцяжарвай сябе клопатамі сваёй дачкі. Шануй сябе, заходзь у госці, — гукала Галя.

— Я і рада, сяброўка. Але гэты зяць мой шалапутны ўсё маё здароўе звядзе, мусіць. Крывасмок гэты.

Выйшла і Маня. У аўтобусе засталася адна жанчына.

— Зяць тут ні прычым, — абурана звярнулася яна да мяне. — Трэба было менш дачцэ швэндацца па начах ды аборты рабіць цераз месяц. Гм... Вы чаго маўчыце?..

*К. ВАСІН.*

